Год VII. ТРАВЕНЬ 1929 г. Кніжка 5(25)



Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.



ЗЬМЕСТ:



Цана асобнага нумару 30 гр.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Людвісарская вул. № 1.

# З практыкі для практыкі.

**Мурашкавы сьпірт.** Ужываецца часта як лекарства пры рэўматызьме для змазваньня. Можна прыгатаваць дамовым спосабам. У чыстую бутэльку ўліваецца трохі звычайнага сьпірту, горла бутэлькі з сярэдзіны і звонку намазваецца мёдам, або сыропам і закапваецца ў кучу з мурашкамі так, каб відаць было з кучы $^1/_3$ частка бутэлькі (шыйка). Мурашкі вабяцца салодкім мёдам або сыропам, пападаюць у горла бутэлькі і потым да сьпірту. Калі зьбярэцца шмат мурашак на дне бутэлькі, дык яе выймаюць, даліваюць сьпіртам і закаркоўваюць. Цераз некалькі гадзін сьпірт можна ўжываць для уціраньня частак цела пры рэўматызьме.

**Паеньне пчол.** Пчала, як іншая жывёла патрабуе вады. Яны бяруць ваду з рэчак, ручайкоў, крыніц. Пры гэтым іх шмат гіне. Пчаляр мусіць паклапаціцца даць ваду пчолам на сваей пасецы. Для гэтага ваду наліваюць ў міску, карытка, кладзацца на паверх вады па саломінцы, або трэшчыне, каб пчала не тапілася. Ваду трохі падсольваюць (на 1 вядро вады жменя кухонай солі). Каб лепш прыахвоціць пчол да такой вады, берагі пасудзіны трэба на першы раз трохі змазаць мёдам.

**Новы спосаб вырабу сыра.** Немцы пачалі выробляць сыр з зьбіранага малака так: да сьвежага цёплага малака дадаецца трохі фруктовага цукру (можна дастаць у аптэцы) і сьвежых драждж́эй. Малако хутка пачне скісацца) ня так як звычайным спосабам(і набірае паху алкаголю. Ад алкаголю сыракваша гусьцее і звальваецца на дно пасуды.

Сыраваткай можна заквашваць новыя порцыі малака, тады драждж́эй дадаваць ня трэба.

Сыр пры такім спосабе атрымліваецца смачны і лёгкастраўны.

# САХА

Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.


## Дзе прычына?

Віленшчына і частка Наваградчыны ўжо галадуе. Голад цяпер заглянуў ня толькі пад страху малазямельнага беларускага селяніна, але ён увайшоў і ў хату нашага серадняка. Калі Заходняя Беларусь прывыкла ў працягу апошніх гадоў да сталах недаяданьняў, дык сёлетні год пашырыў голад на нашай зямлі ў яшчэ нябывалым размеры, захватваючы ў свае лапы з кожным днём усё новыя ахвяры.

Напрасна мясцовая польская прэса, а ў тон ей і »свая« беларуская (радыкальная беларуская прэса ўсё яшчэ прымусова маўчыць) старалася маўчаньнем абыйсьці гэтае вострае пытаньне і паставіць яго на чаргу неадкладнага разрашэньня. Напрасны былі яе натугі схаваць перад опініяй сьвету катастрофу Віленшчыны, напрасны былі папыткі яе адцягнуць увагу грамадзянства ад уласнага запраўднага няшчасьця запаўненьнем цэлых старонак артыкуламі аб фантастычных галодных беспарадках за ўсходняй нашай граніцай. Ілжывасьць падобных сэнсацый перад абліччам уласнага няшчасьця хутка кінулася ў вочы чытачом. Нарэшце трэба было прызнацца у банкруцтве уласнае гаспадаркі на »Крэсах«, бо далей хаваць шыла у мяшку стала немагчымым. Пачалося шуканьне віноўніка няшчасьця, якога хутка знайшлі ў пастаці нямой стыхіі. Адказнасьць за катастрофу мусіў хтосьці панесьці і яе ўзвалілі на »неспрыяючае земляробству на »Крэсах« лета 1928 г. і цяжкую мінулую зіму. Суд свой вырак вынес, сумленьне быццам заспакоена. Пачалося лячэньне хваробы. Стварылася некалькі галодных комітэтаў на чале з высокапастаўленымі асобамі, пушчаны ў ход некалькі адозваў аб ахвярах, асігнаваны мізэрныя (па прызнаньню самых ініцыятараў дапамогі) фундушы і здаецца лячэньне гэтае хваробы гэтым і абмяжуецца. Беларускі селянін мусіць задавольніцца крошкамі з панс-

кага стала, а яго вытрываласьць у змаганьні за сваё існаваньне будзе парукай, што яшчэ гэты год ён пражыве, бо на дапамогу яму ўжо расьце на полі шніткa, крапіва і шчавель, пакуль ня прыдзе ізноў страшная для яго зіма.

Ня маем на мэце тут крытыкаваць самую акцыю дапамогі галодным, ня будзем спыняцца над тым, як у галодных мясцох праводзіцца пасеў, бо думаем, што нашым чытачом гэта добра ведама, а потым — і ня лічым мы падобную акцыю за ліквідацыю крызысу, які пры сучасных палітычных абставінах нашага краю мусіць ізноў праняцьціся над нашым краем і можа яшчэ ў страшнейшай форме. Гэты крызыс заложаны ў карані нашага сацыяльнага ладу.

Прыглядваючыся да рынкавых цэн на збожжа у галодных мясцох і, параўніваючы іх з цэнамі ў іншых, больш сягоньня шчасьлівых ваяводствах Польшчы, мы ня бачым розьніцы. Гэты факт прымушае задумацца, што голад караніцца ня толькі ў няўраджаю мінулага году, а дзесьці глыбей. Гэты голад у нас, калі на рынку не бракуе пасулу на збожжа, выкліканы стратаю пакупной здольнасьці нашага селяніна, якая пачалася ня летась, а ўжо шмат раней і толькі канчаткова дасягнула свайго кульманацыйнага пункту цяпер.

Прыглядваючыся да зямельнай палітыкі на Беларускіх землях, мы бачым, што інтэрэсы нашага малазямельнага селяніна плянова ігнараваліся, што сьвятыя правы да зямлі свайго краю зусім ня браліся пад увагу. Замест справядлівай зямельнай рэформы, якою абяцалі паны палажэньня ў крытычную для іх хвіліну, нам далі »справядлівасьць«, але ў чужаслове. Асадніцтва і парцэляцыя маёнткаў з вольнай рукі дало магчымасьць набыць нашу зямлю чужому — прышламу элемэнту, або сваім багачам. Дробны селянін і беззямельнік, калі душыўся раней на сваім карліковым надзелу або на запашцы ў пана, дык з пераходам маёнткаў да асаднікаў і дробных сваіх паноў пазбавіў іх і карыстаньня запашкай з ласкі пана. А ў гэты час пералюдненая беларуская вёска, ня маючы адыходу лішніх рабочых рук на старану, драбілася на яшчэ

меншыся гаспадаркі, на якіх ня стала магчымым прагадаваць аднаго каня і карову. Стварыўся зачараваны круг бяз выхаду. Варштату працы на зямлі свайго роднага краю няма, выхаду на старану няма, ў пералюоднёную беларусамі Амэрыку эміграваць — ня кожны знойдзе сродкаў, нават прадаўшы ўсю сваю гаспадарку.

Вось сумныя факты, прывёўшыя Віленшчыну, а роўна і ўсю Заходнюю Баларусь да голаду. Гэтыя факты мусіць яшчэ раз напомніць нам, што сёлетнее няшчасьце Віленшчыны хавацца ня толькі ў »няспрыяючым« зямляробству леце 1928 г., а ў самой »аграрнай рэформе«.

Напрасны будуць натугі Ураду ліквідаваць голад на Беларусі асігнаваньнем якіх-небудзь аднаго—двух міліёнаў зл. на 150 тысяч галадаючых, напрасны заклікі да сялян з амбонаў касьцёлаў і царквей пакаяцца ў сваіх грахох, за якія »наслана кара зьверху«. Ачышчацца ад грахоў трэба ня тым, хто цяпер галадуе, а хто іх прывёў да голаду і ў першую чаргу тварцом »справядліваe« аграрнае рэформы.

## Плян гаспадаркі С. С. С. Р. на 5 гадоў (1928—1933).

Для Агульнага Зьезду Саветаў Народны Камісар Рыкаў прыгатаваў даклад з плянам разьвіцьця народнае гаспадаркі С С.С.Р. у працягу пяціёх бліжэйшых гадоў. Гэты рэфэрат зьвярнуў на сябе ўвагу эканамістаў ўсяго сьвету. Замежная капіталістычная прэса, варожая усяму таму, што дзеіцца ў краю соцыялізму, спаткала яго з крытыкай. Прызнаючы гэты плян за грандзіозны, яна ударыла па самым слабым яго месцы, стараючыся яго абязцэніць. Такое становішча ў яскравай форме заняла асабліва англійская прэса.

Прыглядваючыся да гэтае крытыкі, кідаецца у вочы чытачу, што крытыка бязьсільна ўмаліць значэньне пляну там, дзе ёй прыходзіцца опэрыраваць з нямымі лічбамі, якія красамоўна гавораць аб тым гас-

падарчым поступу ў С.С.С.Р., якога далей схаваць капіталізму нельга.

Галоўную увагу плян скіроўвае на соцыялізацыю народнае гаспадаркі С.С.С.Р., якая выглядае цяпер і ў канцы пяці гадоў паводле пляну так:

| | 1927-28 % | 1932-33 % |
|---|---|---|
| у земляробстве | 2 | 12 |
| у гандлю | 75 | 91 |
| у прамысловасьці | 80 | 92 |

Як бачым, найрыдыкальнейшая зьмена ёсьць у земляробстве. Паводле пляну абшар пасеваў у калектыўных сялянскіх гаспадарках (колхозы) і савецкіх гаспадарках (совхозы) будзе займаць у 1933 г. — 26 міліёнаў гэкт. зямлі. Колхозы і совхозы павінны даць на рынак сваіх прадуктаў да 43%.

Тэндэнцыя падобнага праэкту стане зразумелай нашым чытачом тады, калі мы ўявім сабе, што інтэнсыфікацыя сельскае гаспадаркі ляжыць ня ў дробных гаспадарках, а ў буйных, што дабрабыт краю можна палепшыць ня пры драбленьні сваіх падзелаў, а пры іх злучэньні. Гэтага вымагае ня толькі партыйны пагляд на рэчы, але і самая жалезная воля экономікі.

Выдаткі на разбудову народнае гаспадаркі С.С.С.Р. у працягу апошніх пяці гадоў выносілі 26½ міліярдаў рублёў, дык за 1928-1933 г. яны будуць павялічаны да 64½ міліярдаў.

Гэтыя выдаткі маюць быць разьмешчаны па асобным галінам у наступным парадку:

| Выдаткі ў міліярдах руб. | 1923-28 г. | 1928-33 г. |
|---|---|---|
| у электрыфікацыі | 0,9 | 3,1 |
| у камунікацыі | 2,7 | 10,0 |
| у прамысловасьці | 4,4 | 16,4 |
| у земляробстве | 15,0 | 23,2 |

Рэшта фундушу будзе паводле пляну ўкладзена ў разбудову жылых дамоў і будынкаў, на павялічэньне ўкладовых капіталаў савецкіх і каапэратыўных організацыяў, банкаў і інш. Сталы капітал народнае гаспадаркі вырасьце з 70 да 128 міліярдаў руб.

Пры пераходзе да прамысловасьці плян пільную увагу зварочвае на фабрыкі для будовы машын, якіх у працягу пяці гадоў маюць павялічыць у $3\frac{1}{2}$ разы, земляробскіх машын — у 4 разы. Будоўля 42 новых электрычных станцыяў павялічвае электрычную энэргію краю з 5 да 22 міліярдаў kwh.

Паводле ухвалы конфэрэнцыі плян разбудовы Народнае Гаспадаркі мае на мэце: 1) паніжэньне коштаў прамысловай вытворчасьці ў працягу пяці гадоў на 35 прац.; 2) паніжэньне ўласных коштаў у будаўніцтве на 50 прац.; 3) павялічэньне прадукцыйнасьці працы ў прамысловасьці на 110 прац; 4) павялічэньне прадукцыйнасьці земляробства; 5) павялічэньне абшару пасеваў на 22 прац.

Калі па пляну праэктуецца ў працягу 5 гадоў паменшыць кошты вытворчасьці, гэта значыць панізіць цану фабрыката на 35 прац. дык саветам у працягу апошніх гадоў ужо ўдаецца паступова панізіць кошты вытворчасьці. Так, у 1927-28 г. гэта паніжэньне дасягала да 5 прац. Да гэтага паніжэньня прычыняецца як 7-гадзінная праца на фабрыках, так і абсталяваньне фабрык найдасканалейшымі машынамі; гэта-ж самае паслужыла і паслужыць надалей павялічэньню прадукцыйнасьці працы работніка на фабрыцы. Як паказала савецкая статыстыка, прадукцыйнасьць працы работніка на фабрыцы з красавіка 1928 г. па красавік 1929 г. павялічылася, дзякуючы увядзеньню 7 гадзіннага дня, на 7,7 прац. Тут фабрыкі працуюць бяз усялякіх абедзеных і палуднёвых перапынкаў круглых 24 гадзіны. Гэта дае надзею савецкім эканамістам павялічыць прадукцыйнасьць працы работніка на фабрыцы ў працягу наступных 5 гадоў на 110 прац.

Як бачым, гэты плян разбудовы Народнае Гаспадаркі краю соцыялізму выглядвае на амэрыканізм. Крытыка ворагаў савецкага строю і іх ссылка на нерэальнасьць пляну б'ецца статыстычнымі дадзенымі, якіх саветам удалося дасягнуць пры шмат труднейшых варунках, як цяпер. Тэрэна С.С.С.Р. нядаўна ўяўляла сабою абраз руіны і была мішэньню для »страляніны« ворагаў соцыялізму. Вялікая Вайна Народаў,

наскокі белых арміяў на саветы, страшны ў 1919 г. голад, эканамічная і палітычная блёкада С.С.С.Р. сусьветным капіталізмам, здавалася, павінны прымусіць соцыялізм прызнаць сябе за утопію. Капіталізм спадзяваўся, што працоўныя С С.С Р. вось-вось прызнаюць сваё банкроцтва. Але, хутка падзеі ў С.С.С.Р. прымусілі капіталізм тут памыліцца, бо крызыс мінаваў і пачалося аздараўленьне гаспадаркі на соцыяльных падставах у тэмпе, якога яшчэ людзкая гісторыя да гэтага часу ня ведае. Капіталізм прымушаны падзеямі ў сябе дома зьняць блёкаду і працягнуць руку сацыялізму да супрацоўніцтва. Тактычныя мяркаваньні павадыроў С.С.С Р. падсказалі гэтае »супрацоўніцтва« прыняць.

Так адбываўся паступовы росквіт Народнае Гаспадаркі на усход ад нас ў працягу апошніх гадоў. А цяпер, калі апарат савецкае улады чуе пад сабою мацнейшы грунт, праэкт Народнага Радавага Камісара Рыкава, трэба спадзявацца, будзе зрэалізаваны цалком і будзе мець значэньне можа ня толькі для С.С.С.Р.

# Балоты могуць насельніцтву даць вялікую карысьць.

Каб зьнішчыць балота і зрабіць з яго культурную глебу, або атрымаць іншую карысьць для гаспадаркі—яго неабходна перш за ўсё асушыць, гэта зн. адвесьці з яго той лішак вады, які зьяўляецца галоўнай прычынай утварэньня балот.

Першая карысьць, якая атрымліваецца ад асушкі балота, гэта аздараўленьне мясцовасьці. Паветра робіцца сушэйшае, цяплейшае і больш здаровае для чалавека. Менш туманаў, менш халодных і больш цёплых сонечных дзён, а гэта знача, што колькасьць сьвятла і цяпла павялічваецца. Усё гэта паляпшае рост і дасьпяваньне расьлін.

Другая карысьць тая, што ў лясной мясцовасьці, пасьля асушкі балота, лес пачынае хутка папраўляцца і добра расьці. Праз 10 год сваім прыростам лес зьвяртае ўсе выдаткі, якія былі затрачаны на яго асушку.

Мох з абсушаных імшараў з вялікім посьпехам можна скарыстаць на подсьціл жывёле, замест дарагой і менш

выгаднай саломы. Больш цёмны і шчыльны торф здабываецца для апалу. Гэты тарфяны апал, асабліва ў той мясцовасьці, дзе не хапае лесу, па сваёй якасьці і цеплавой уласьцівасьці будзе ня горшы дроў.

Трэцяя і бадай што самая галоўная карысьць, якую можна атрымаць ад асушанага балота,—гэта ўтварыцць на яго месцы добрае, культурнае поле, луг, пасьбішча, ды нават сад і гарод,

Мы ведаем шмат прыкладаў, калі на месцы балота ўтвараліся палі і лугі. Трэба сказаць, што гэтыя асушаныя балоты цяпер даюць вялікі прыбытак гаспадарцы. Нашыя балоты маюць у сабе нязьлічоную колькасьць вякамі складаных гнойных запасаў, якія зьяўляюцца вельмі карыснымі для росту расьлін, толькі гэтую глебу трэба апрацаваць так, каб расьліны маглі выкарыстоўваць гэтыя запасы.

Дасягнуць гэтага даволі лёгка, трэба толькі пасьля асушкі расчысьціць плошчу і ўзараць яе добрым плугам. Далей застаецца толькі забаранаваць глебу і ўгноіць яе попелам у ліку 60-100 пуд. на дзес., або рознымі штучнымі ўгнаеньнямі, як, напр., калійнай сольлю з фосфарытнай мукой, або тамасоўкай. Гэтага ўгнаеньня трэба ўжываць прыблізна 15-20 пуд. на дзес. Далейшая праца, як сяўба і прыборка ўраджаю, выконваецца звычайным спосабам.

І вось, калі балота будзе правільна асушана, апрацавана і ўгноена [1]), дык яно дасьць ураджай збожжа, лёну, канаплі, бульбы, капусты і лугавых траў на 100% больш, чымся сярэдні ўраджай, які дае гаспадару яго мінэральная (палявая) глеба.

Вось напрыклад з нашага поля Менскай балотнай станцыі мы атрымліваем ўраджаі:

Жыта: высеяна 8 пуд., атрымана—зерня 100 пуд. і саломы 300 п. Ураджай зерня сам—12.

Авёс: высеяна 8 пуд. атрымана — зерня 110 пуд., саломы 270 пуд. Ураджай зерня сам—14.

Сена з лугавых траў у адзін укос атрымана 350 п., у два ўкосы—500 пуд.

Бульбы на 80 пуд. пасаджанай—1000—1200 пуд.

Сяляне атрымліваюць з поля наступны ўраджай:

Жыта на 11 пуд. высеву—зерня—45 пуд., саломы — 100 п. Ураджай зерня сам—4. Аўса на 13 п. высеву—зерня 50 пуд., саломы 100 пуд. Ураджай зерня сам 4. Бульбы на 100 пуд. пасаджанай 500 пуд.

Гэтыя цыфры яскрава паказваюць тую карысьць, якую дае мэліарацыя і культура балот. П Саўкін

(Менск Балотная Дасьледчая Станцыя).

---

1) Для тарфяных балот гной зусім непатрэбны бо акрамя таго, што ён дарагі, там ён мала дае карысьці.

# Каноплі на балоце.

У нас каноплі даволі рэдка вывозяцца на рынак (усходнія раёны), бо іх сеюць у гаспадарках толькі дзеля сваіх патрэб. Гэта мае непасрэдную сувязь з тым, што каноплі патрабуюць шмат гною (4800—6000 п. на дзес.) і калі яго не хапае, дык зразумела, каноплі ня могуць разьвівацца.

А між іншым, каноплі, як тэхнічная культура, асабліва цяпер, калі ўжо ўдасканалены спосабы іх апрацоўкі, заслугоўвае асаблівай увагі. За апошнія гады ў РСФСР яе разьвіцьцё значна пашыраецца.

Каноплі даюць алей і валакно. А таму калі культуры канапель надаць прамысловы характар, дык яны даюць вялікі агульны прыбытак. Так, напрыклад, з матар'ялаў Арлоўскай губ. (цэнтр. канопляводзтва) агульны прыбытак з дзесяціны атрымліваецца: ад жыта—55 р., ад аўса—46 р., а ад канапель — 158 р. Гэтыя, сярэднія за некалькі гадоў, лічбы яскрава паказваюць той значны прыбытак і яшчэ раз падкрэсьліваюць карысьць і неабходнасьць разьвіцьця канапель, як рыначнай культуры. Толькі ў нашых умовах трэба знайсьці належнае месца для іх пасеву.

Тыя матар'ялы аб каноплях (за тры гады), якія маюцца ў Забалацкай Балотнай Гаспадарцы, яскрава адзначаюць, што балота зьяўляецца зусім здавальняючым месцам для гэтай культуры. Напрыклад, іх сярэдні ўраджай за 1925-28 г. быў 65 пуд. зерня і 30 пуд. валакна з дзес., у той час, як у Арлоўскай губ.. у тыпічных канапляных раёнах, сярэдні ўраджай зерня быў ад 32 да 74 пуд. з дзес.

Пры адзначаных сярэдніх дадзеных ураджайнасьці, агульны прыбытак на балоце складае 345 руб. а чысты каля 200 руб. Гэта падкрэсьлівае асаблівую выгаду разьвіцьця культуры ў сялянскай гаспадаркі, дзе ёсьць вольныя жаночыя рукі, дзе ня трэба рабіць асаблівых выдаткаў на збор і першую апрацоўку канапель.

Якія-ж запатрабаваньні маюць сувязь з культурай іх на балоце?

Яскрава адчуваецца, што ўраджайнасьць канапель залежыць ад спосабу асушкі. Досьледы ў гэтым напрамку паказалі, што пры асушцы дрэнажом (гліnянымі трубамі) у адлегласьці 50 мэтр., ураджай зерня атрымліваецца 40 пуд., у той час, як, пры адлегласьці 20 мэтраў — ураджай павялічаецца да 64 пуд. з дзес. Рост ураджаю на 60 проц. даволі яскрава адзначае выгаду інтэнсыўнай асушкі, дзякуючы якой атрымліваецца больш зерня і валакна.

Другой умовай пасьпяховага росту канапель зьяўляецца — угнаеньне балота. Гэта відаць з наступнай табліцы:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. Балота без угнаеньня | 18 пуд. | зерня | з | дзес. |
| 2. Пры ўнясеньні 9 п. калійн. солі | 50 | ,, | ,, | ,, |
| 3. ,, ,, 15 п. ,, ,, | 64 | ,, | ,, | ,, |
| 4. ,, ,, 15 п.+18 п. тамасоўкі | 64,9 п. | ,, | | ,, |

Як відаць, 15-ці пудовая норма 30 проц. кал. солі павялічыла ўраджай на 255 проц., г. зн. амаль што ў $3^1/_2$ разы, а вось дадатак фосфару на зрабіў ніякага ўплыву. Такім чынам, як відаць з досьледу, можна карыстацца аднэй калійнай сольлю. Зразумела, што гэта ня ёсьць агульнае правіла для ўсіх балот, бо ёсьць такія балоты, якія патрабуюць іншага ўгнаеньня.

Час засеву таксама адбіваецца на ўраджаі канапель, таму што сырасьць і холад раньняй вясны значна ўплывае на ўсходы канапель. У гэтым годзе раньні засеў (у палове маю) даў на 10 — $12^1/_2$ менш, чым пазьнейшы (канец маю). Зразумела, кожны год тэрмін засеву мяняецца, але агулам сьпяшацца з пасевам ня трэба, лепш пачакаць сталай цёплай пагоды.

Больш ужо такіх асаблівых запатрабаваньняў каноплі ня маюць. Як і ўсе іншыя культуры, яны патрабуюць, каб увосень, а таксама і вясной, глеба была акуратна заворана і забаранована. Для пасеву рукамі ў роскід патрабуецца з разьліку 7 пуд насеньня на дзес. Забаранованае семя, як правіла, прыкатваецца катком, пасьля чаго праз кожныя $1^1/_2$ саж. робяцца барозны, па якіх пры вырываньні поскані можна хадзіць ня топчучы канапель.

Такім чынам асаблівай труднасьці няма ў культуры канапель на балоце, прыбытак-жа атрымліваецца даволі значны. Вось чаму варта зьвярнуць на гэта ўвагу.

У дадатак трэба адзначыць наступнае:

1) Каноплі пры засеве на балоце розьняцца ад іншых культур тым, што яны не патрабуюць гною. Яго можна скарыстаць для іншых патрэб.

2) Галоўнае запатрабаваньне канапель на балоце — гэтая добрая асушка і норма каліевага і фосфарнага ўгнаеньня.

3) На асушаным і ўгноеным балоце каноплі даюць да 70 пуд. зерня і 30 пуд. валакна з дзесяціны.

4) Калі ў гаспадарцы есьць вольныя рукі, то прыбытак ад канапель узрастае прыблізна да 400 руб. з дзес.

5) Пры вялікім засеве канапель у мэліарацыйных т-вах, магчыма рацыяналізаваць яе перапрацоўку і скарыстаць даволі каштоўныя адкіды пры гэтым, як макуха, што яшчэ больш павялічвае прыбытак.

**А. Шохар.**

(Забалацкая Балотна-Дасьледчая гаспадарка).

# Гаспадарчыя парады.

**Пытаньне.** Маю добрага каня, у якога летам трэскаюцца капыты. Парадзьце, чым іх лячыць.

**Андрэй Касаты.**

**Адказ.** Каб захаваць капыты ў жывёлы ад трэсканьня ў часе сухаты, трэба іх змазваць шмаравідлам з жыру. Для гэтай мэты ня ўсялякі жыр надаецца, бо некаторыя жыры, ня толькі дзеюць на рог капыта карысна, але нават шкодна.

Некаторыя вэтэрынары раюць для змазваньня трэскаючыхся капытоў жыр з авечай шэрсьці, які можна набыць у аптэках пад назовам **лянолін.**

Перад ужываньнем ляноліна трэба капыты добра вымыць чыстай халоднай вадой і, толькі як капыт высахне, націраць суконкай лянолін некалькі мінут. Націраньне адбываецца штодня ў працягу 1 — $1\frac{1}{2}$ месяца. Зразумела, у гэты час конь мусіць стаяць на сухой падлозе і ніколі на мокрым гнаю.

**Пытаньне.** Што за прычыны затрыманьня мочы ў каня і як з гэтай хваробай змагацца. **А. П.**

**Адказ.** Затрыманьне мочы часьцей бывае ў коняй чым у іншых жывёл; у самцоў здараецца часьцей, чым у саміц.

Прычынаў затрыманьня мочы шмат, як напрыклад: параліч заду, параліч некаторых частак мачавога праходу, мачавыя камяні ў пузыру, згусткі крыві і іншыя.

Жывёла тужыцца мачыцца і калі моча выпускаецца краплямі, дык з сільнымі болямі.

Да выпусканьня мачы служыць асобая прылада—*мачавы катэтэр*. Перад ужываньнем катэтэру належыць спрабаваць выпусьціць мочу націсканьнем далоні на мачавы пузыр, які лёгка нашчупаць, калі ўсунуць руку ў задняпраходнюю кішку. Зразумела, што рука перад спробай мусіць быць чыста выматай і вымазана якім-небудзь жырам. Цёплая леватыва з румянкі, ужываная што 10 мінут пры гэтым добра памагае.

Калі спроба самому ратаваць каня ня удаецца, трэба зварачвацца да вэтэрынара.

**Пытаньне.** Што такое азотняк і як яго ўжываць?

**У. Навіцкі.**

**Адказ.** Азотняк ці азотная вапна складаецца з азоту вапна і хімічнага вугаля, робячы хімічнае злучэньне $CaCN_2$ (цыянамід вапна). Апрача гэтага ў азатняку маецца вапна, серка і іншыя, што ня маюць ў азатняку удабрыцельнай вартасьці, а часта (як серка) абніжае вартасьць азатняку.

Непажаданай для земляроба уласьціvасьцяй азатняку бывае — яго здольнасьць прыцягваць з паветра вадзяныя пары, якія, раскладаючы яго, абніжаюць удабрыцельную сілу. Некаторыя фабрыкі стараюцца выраблаць **грануляваны** азотняк, які не баіцца вадзяных пароў і ня раскладаецца. Дадаецца тут да азатняку алею.

Азатняк у глебе перарабляецца ў складнікі, з якіх расьліна можа карыстацца як спажывай. Пакуль гэты расклад у глебе не адбудзецца, азатняк перш раскладаецца на атрутныя для расьліны складнікі, з якіх ужо пад уплывам бактэрый перарабляецца ў спажыву. Вось дзеля гэтага азатняк трэба высяваць за 2-3 дні перад сяўбой збожжа. Высяеўшы азатняк, трэба яго бараной зьмяшаць з зямлёй. За гэты час у глебе азатняк усьпее перарабіцца у спажыву для расьліны.

Азатняк лепш дзеіць на глебах цяжкіх, чым лёгкіх.

**Пытаньне.** Ці можца садзіць яблыні на грунце, на якім грунтовая вада стаіць на вышыні 1 мэтра. **П. С.**

**Адказ.** Пакуль дрэва маладое, карані яшчэ ідуць ня глыбока, яблыня жыць можа, а далей карані будуць паглыбляцца, дастануць грунтовай вады і яблыня засохне. Калі можна зрабіць адвод грунтовых вод, дык трэба першна-перш гэта зрабіць.

**Пытаньне.** Якія надаюцца штучныя ўгнаеньні пад лубін на пяскох? **У. Навіцкі.**

**Адказ.** Лубін сеецца звычайна на пяскох, бедных паташом, дзеля чаго паташовыя гноі тут пад лубін могуць добра аплачвацца. Лубін мае здольнасьць браць спажыву з трудна спажываных злучэньняў, а для гэтага пад лубін можа надавацца кайніт. На глебах больш зьвязлых — з глінкай ужываць пад лубін паташовыя ўгнаеньні рызыкоўна, бо гэтыя удабрэньні на глінах могуць не зрабіць уплыву на ураджай лубіну.

Лубін уладае здольнасьцю браць фосфар з такіх злучэньняў у глебе, якія для іншых расьлін не даступны. Апрача таго, тамасоўка мае ў сябе каля 50% вапны, якой лубін ня любіць. Супэрфасфат на лёгкіх землях, пасеяны загадзьдзя можа выпаласквацца у глыбокія слаі. Гэтыя асаблівасьці фосфаравых угнаеньняў пад лубін на лёгкіх землях прымушаюць гаспадара часта уносіць фосфар не пад лубін, а пасьля яго заворваньня пад жыта.

**Пытаньне.** Чым можна замяніць чырвоную канюшыну на пяскох? Ці надаецца для гэтага белая і швэцкая канюшына? **С. К.**

**Адказ.** Чырвоная канюшына на пяскох расьці ня любіць. Лепш надаецца белая канюшына, але яна мала ўраджайная. Швэцкая канюшына ня зносіць сухіх пяскоў. Раілі-б лепш сеяць сэрадэлю і віка-аўсяную сумязь.

# Куток для жанчын.

## ДЗЕСЯЦЬ ПРАВІЛ ДЛЯ МАТАК.

1. *Не спавівай дзіцяці моцна, бо гэта для яго шкодна.* Ад моцнага спавіваньня дзіцяці горача, цела ў яго заходзіць, у зморшчках і ў пахах прэе. Загэтым дзіця крычыць і кепска сьпіць. Жанчыны на вёсцы кажуць, што калі не спавіваць дзіцяці, то яно нібыта будзе крывое ці гарбатае. Гэта няпраўда. Дзеці калечацца праз недагляд і ад хвароб.

2) *Да паўгоду кармі дзіця толькі сваім малаком.* Пасьля шасьці месяцаў, асабліва, калі ў грудзях не хапае малака, можна пачаць прыкармліваць кароўім малаком або нават паволі, паступова перайсьці на адно кароўе малако. Малако трэба папалам разводзіць вадой і крыху падсалоджваць цукрам. І малако, і ваду, якая дадаецца да малака трэба абавязкова пераварыць. Малако, ваду і ўсю пасуду для іх (гаршкі, бутэлькі, гумовыя сыскі) трэба трымаць у чыстаце.

3) *Не кармі дзіця кожны раз, як толькі заплача, але наперад агледзь яго добра і даведайся ад чаго яно плача.* Можа яму мокра, можа замоцна спавіта, можа дзе сапрэла і баліць, можа што муляе, можа кусае блыха, муха і г. д.

Да 2-х месяцаў кармі дзіцё праз кожныя дзьве гадзіны, пасьля 2-х месяцаў кармі праз кожныя 3 гадзіны. Калі будзеш часьцей карміць, то дзіця будзе хварэць на жывот.

4. *Белы хлеб, кашу, бульбу можна пакрысе даваць толькі тады, калі зьявяцца першыя зубы.*

5. *Ніколі не давай дзіцяці пустой цыцкі або суслы з хлеба, з кашы ці іншага. Помні, што брудная сусла — люты вораг твайго дзіцяці. У ім хвароба і зараза. У ім—сьмерць твайго дзіцяці.*

6. *Да пяці месяцаў — мый што дня, а пасьля пяці месяцаў — праз дзень.* Будзеш часьцей мыць — дзіцё будзе здаравей і мацней

7. *Мый галоўку кожны раз, як купаеш дзіця.* Не заводзь бруду і каросты на галоўцы. Ня вер цёмным шаптунам нібы галоўку — ня трэба мыць.

8 *Не калышы дзіця, бо гэта шкодзіць яму на галаву.*

9. *Не пакідай дзіця на маленькую недарослую няньку,* бо шмат ад гэтага бывае дзіцячых калецтваў і хвароб.

10 *Як захварэе дзіця, то не марнуй часу і нясі яго да доктара.* Доктар агледзіць дзіця і дасьць лякарства і параду. Ня трэба шукаць парады і лячэньня ў розных знахароў ды шаптух.

## Пра радзільную гарачку.

Агата жыла далёка ад больніцы, радзіла ўжо 3 разы дзяцей і ніколі ня раілася з доктарам альбо акушэркаю. Давялося ёй радзіць чацьверты раз. Роды штось зацягнуліся, і яна паклікала бабку Іваніху, каб тая якнебудзь дапамагла.

Іваніха ў гэты час якраз разьбівала гной на полі, але як сказалі ёй, што запрашае Агата да родаў, дык яна барджджэй кінула разьбіваць гной, абцерла рукі хвартухом і пашла да Агаты. Даведаўшыся ў чым справа, Іваніха параіла парасчыняць усе дзьверы ў хаце, у сенцах, хлявох і адамкнуць усе замкі, а сама зьняла пояс і абвяла ім круг жывата Агаты тройчы. Гэтак заўсёды Іваніха робіць, калі трудна каму прыходзіцца радзіць, дзеля таго, каб пашырыўся родавы праход. Але часу прашло шмат, а роды не паскараліся.

Іваніха закасала рукавы сваёй адзежыны за локаць, пачала засоўваць па 2 пальцы левае і правае рукі ў родавы праход і гэткім парадкам старалася расьцягнуць родавы праход. Гэтак Іваніха старалася да тых пор, пакуль не пашла кроў з родавага праходу. Убачыўшы, што і гэта не памагае, Іваніха кіпцямі прарвала плодны пузыр,—выцекла вада, і Агата скора радзіла дзіцё. Дні са тры Агата адчувала сябе нішто, але на чацьверты ўвечары Агаце зрабілася холадна настолькі, што яна дрыжала, і пасьля таго яе пачало паліць. Далей у яе стаў балець жывот унізе, да яго ня можна было даткнуцца рукою. У пахвінах зрабіліся балючыя залозы і Агата не магла ўжо ўстаць з ложка. Праз тыдзень пазвалі доктара. Доктар агледзеў хворую і сказаў, што ў Агаты заражэньне крыві ад таго, што пры родах бруднымі рукамі лазілі ў родавы праход.

Ён сказаў, што калі дактарам даводзіцца аглядаць парадзіху, дык яны надта старанна мыюць свае рукі шчоткаю з мылам, потым выціраюць сьпірытусам і сулямою і ні да чога не датыкаюцца гэтымі чыстымі рукамі. Уводзяць адзін палец у родавы праход і дасьледуюць парадзіху. Усё гэта трэба выконваць, каб не занесьці заразы ў матачнік, бо матачнік у момант родаў надта лёгка загніваецца ад бруду.

Каля 3 месяцаў хварэла Агата. Доктар назначыў трымаць лёд на жываце і рабіць гарачае шпрынцаваньне, і патроху Агата стала папраўляцца.

У апошні раз адведаў Агату доктар і сказаў, што гэта вялікае шчасьце, што яна папраўляецца, а ў падобных выпадках многа парадзіх ад заражэньня крыві памірае, і расказаў ёй пра Тэклю, якая памёрла ад заражэньня крыві. Тэклі таксама памагалі бабы пры родах і лазілі ў ро-

давы праход нячыстымі, бруднымі рукамі, дык ад гэтага зьявілася радзільная гарачка. Жывот уздуўся, хворая пачала ікаць, вочы запалі, язык перасох, і, прамучыўшыся 5 дзён, Тэкля памёрла.

Наогул, трэба параіць цяжарным гэткія правілы: **пры родах павінна быць акушэрка ці доктар. Ніхто ня можа лазіць у родавы праход бруднымі рукамі, бо ад гэтага робіцца радзільная гарачка, а ад яе многа парадзіх памірае.**

## Новыя законы аб вясковай будоўлі.

У Dzienniku „Ustaw“ (№ 25 ад 5 сакавіка 1928 г.) зьмешчана ustawa аб вясковай будоўлі, маючая сілу з дня яе агалошаньня на ўсю Польшчу.

Падаём да ведама чытачом „Сахі“ гэты закон у скарочаньні:

**Адлегласьць між будынкамі і адступ ад дарогі.** У пасёлках, ня маючых будаўляных плянаў, (а гэтакіх плянаў вёска Заходняе Беларусі амаль кожная ня мае,) новыя будынкі, згодна новаму закону, могуць ставіцца ў адлегласьці ня менш $3^1/_2$ мэтр. ад грамадзкай дарогі, а плот — 75 санц. Пры гэтым адлегласьць ад дарогі да будынку можа быць ужыта толькі пад агарод — палісаднік.

Адлегласьць будынкаў ад граніцы суседа павінна быць ня менш:

а) неагняўпорныя *) — 6 мэтр.

б) агняўпорныя, жылыя з выхадам да граніцы — 4 м.

в) агняўпорныя бяз выхаду ў бок граніцы — 3 м.

Пры закладцы новых сядзіб адлегласьць агняўпорных будынкаў ад граніцы суседа і ад сярэдзіны дарогі мусіць быць роўнай ня менш 15 мэтр.

Адлегласьць між звычайнымі неагняўпорнымі будынкамі, або неагняўпорнага ад агняўпорнага па закону мусіць выносіць ня менш 12 мэтр., а будынкі, вызначыныя для складу лёгка запаляючыхся матэрыялаў, як сена, салома — 30 мэтр.

Кузьні, лазьні, капцярні і г. д. з неагняўпорнага матэрыялу могуць ставіцца на 30 мэтр. як ад граніцы суседа, так і ад іншых будынкаў.

У гмінах, дзе раней было забаронена крыць стрэхі неагняўпорным матэрыялам, гэты забарона мае сілу і на-

---

*) Агняўпорнымі будынкамі лічацца такія, якія маюць і сьцены і стрэхі з незгараемага матэрыялу.

далей, а там, дзе гэтае забароны раней ня было, ваевода можа забараніць крыць неагняўпорным матэрыялам

Крыць і рэмантаваць стрэхі павярховых (шмат этажных) будынкаў неагняўпорным матэрыялам забараняецца.

**Фундамэнты.** Усялякія агняўпорныя будынкі павінны ставіцца на фундамэнтах, пры чым гэтыя фундамэнты павінны мець ніжэй падлогі на 20 санц. ад зямлі ізоляцыі з толі (папы) і смалы.

**Печы і коміны.** Драўляная падлога перад палівам печы півінна быць пакрыта бляхай вілічынёй ня менш 40×50 сан.

Адлегласьць печы ад драўляных частак будынку мусіць выносіць:

а) пры печах жалезных ад атынкаванай столі — 25 нетынкаванай, 50

б) пры печах кахляных, цэгляных ад атынкаванай столі — 15.

ад неатынкаванай 25.

Гэтыя адлегласьці мусяць быць захаваны таксама для люшак дымавых, злучаючых печ з дымаходам у коміне.

**Жылыя памяшчэньні.** Вышыня жылых памяшчэньняў ад падлогі да бэлькі павінна выносіць ня менш $2^1/_2$ м. Вокны павінны мець фортачкі. Плошча вокан павінна выносіць ня менш $^1/_{10}$ часткі плошчы падлогі. Падлога мусіць быць паднята ня ніжэй як 40 сан. ад грунту.

**Студні, гнаёўкі і інш.** Адлегласьць студні ад граніцы суседа павінна быць ня менш 5 м., а ад хлеву, гнаёўкі і інш. — 10м. Калі студня супольная, дык можа быць на самай граніцы з суседам. Студні павінны быць накрыты.

Устэмпы трэба будаваць ня бліжэй 10 метр. ад студні, 2 мэтр. ад граніцы суседа і 5 мэтр. ад дарогі.

**Дазвол на будоўлю.** На кожную новую будоўлю, на перабудоўлю і зьмену этажных будынкаў—жылых і гаспадарскіх трэба мець кожны раз дазвол ад сваей воласьці, якая мае надзор за усялякімі будынкамі на тэрэне сваей воласьці.

---

## Праўныя парады.

**Пытаньне.** Па сьмерці майго дзядзькі (брат мае маткі), які памёр у 1914 г., асталася яго жонка і сын ад першага мужа. Я адсудзіў ад іх $^6/_7$ зямлі і будынкаў. Яны палічылі сябе пакрыўджанымі і падалі апэляцыю, у якой даказваюць права свае на гэту зямлю па даўнасьці, Ці могуць яны адсудзіць ад мяне гэту зямлю?

**Якім Нароцкі.**

**Адказ.** Суд першае інстацыі слушна прызнаў Вам, як першаму сваяку нябожчыка, $^6/_7$ часткі маемасьці, пакі-

даючы 1/7 часткі толькі для жонкі дзядзькі. Сын яе мае права прэтэндаваць толькі да гэтае 1/7 часткі. Тут даўнасьці няма, бо гады з 1914 па 1920 не залічаюцца да даўнаснага ўладаньня.

**Пытаньне.** Па сьмерці бацькоў асталася ў мяне сястра. Зямлі 4 дзесянціны. Колькі па праву ей належыць?

**К. Карэцкі**

**Адказ.** Тут дачка бацькі (Ваша сястра) і Вы маеце роўныя правы на зямлю, значыць Вашай сястрэ належыць 2 дзесянціны.

**Пытаньне.** Наша вёска мае сваей зямлі 103 дзес. і нам належыць ад маёнтку сэрвітут. Абшарнік дае толькі па згодзе 18 дзес. Якая доля нам належыць і як яе ўзяць?

**Вёска Агаркучы.**

**Адказ.** З Вашага лісту нельга сказаць, колькі Вам дзесяцін сэрвітуту належыць, дзеля чаго трэба ведаць абшар зямлі, абцяжаны сэрвітутам і якія маеце дакумэнты.

Калі не згаджаецеся на 18 дзесяцін замест сэрвітуту, а маеце якія-небудзь дакумэнты, сьцьвярджаючы сэрвітутнае права, дык зьвярніцеся да зямельнага камісара ў справе разрашэньня гэтага пытаньня.

# Наша хроніка.

**1-го мая ў Вільні.** Дзень першага мая лічыцца сьвятам працоўных усяго сьвету. У гэты дзень усе сьвядомыя свайго клясовага паходжаньня работнікі стараюцца праявіць сваю салідарнасьць у розных паходах і маніфэстацыях. Гукі інтэрнацыяналу гавораць, што працоўны выхоцзіць з вузкіх рамак нацыянальных інтэрэсаў, а пераходзіць да братняга саюзу працоўных ўсяго сьвету. У гэты дзень няма нацыянальных перагародак, разлучаючых сягоньня сьвет на шмат каморак.

У Вільні 1-га мая працоўныя горада зрабілі два паходы: 1-пад сьцягам П.П.С. — лявіцы, у якім прыймалі ўчасьце завадовыя саюзы Вільні, беларусы — радыкалы на чале з паслом Беларускага Пасольскага Клюбу грам. Дварчанінам, жыдоўскія незалежныя сацыялісты, сацыялістычная акадэмічная моладзь і інш. Паход складаўся з некалькі тысяч маніфістантаў. У часе паходу „неякія асобы“ стараліся перашкодзіць паходу, у выніку якога некалькі асоб атрымалі „патурбаваньне“, а адзін работнік, цераз некалькі дзён памёр. Другі паход пад сьцягам П.П.С. правіцы адбыўся спакойна пры нялічным учасьці урадоўцаў, пераважна служачых на чугунцы.

Рэдактар і Выдавец **А. Уласаў**.

**Няшчасны „выпадак“ з паслом д-рам Дварчанінам.** У часе маніфістацыі 1-га мая, на вуліцы Вільні д-р Дварчанін пачаў прамову да работнікаў. У гэты момант яго схвацілі „неякія асобы ў цывілі“ і паход „разьвязалі“. Цераз некалькі гадзін пасол Дварчанін зьявіўся ў сэкрэтарыят Пасольскага Клюбу з „першамайскімі адзнакамі“ ў пастаці сінякоў і ран на галаве, твары, пад вачыма і на целе. Зараз-жа была аказана пацярпеўшыму прыватная лекарская помач.

**Памёр** у гетым месяцы віцэ-старшыня Віленскага Акружнога Суда Аўсянка, які ў часе працэсу „Грамады“ займаў месца старшыні ў судзе.

**А чыгунка Варапаева — Друя ўсё „пачынаецца“ будавацца.** Як падавалі польскія газэты, некалькі год назад, М-ства чугунак у Польшчы пачала будаваць чугунку Варапаева — Друя, але чамусьці дарога ўсё толькі „пачынаецца“ будавацца да гэтага часу.

Дарога мае прахадзіць цераз мясцовасьць, дзе найбольш сёлета пануе голад. Работнікаў на чугунку сабралося з ваколіцаў—за 100 вёрст. Газэта „Słowo“ падае, што з тэрэны, дзе будуецца дарога, надыходзяць трывожныя весткі аб заміраньні работы, аб кармленьні работнікаў квіткамі.

---

Вышла з друку кніжка «ЯК ПАЛЕПШЫЦЬ ПЕСКАВУЮ ГЛЕБУ». Выпісаць можна: Вільня, Віленская 8. Рэдакцыя «Саха», а таксама ў-ва ўсіх беларускіх кнігарнях Вільні і правінцыі.

---

Сьпяшэце выпісаць комплекты «Сахі» за 1927 і 1928 г.

Комплект «Сахі» (з дадаткам) за 1927 г. каштуе 1 зл. 15 гр. і за 1928 г. (з дадаткам)—1 зл. 50 гр.

Прадаюцца у-ва ўсіх беларускіх кнігарнях.